Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

31 сакавіка – 6 красавіка 2000 года
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
Цана ў розніцу 60 рублёў
№ 13 (258)

АДНА ЗЯМЛЯ

**НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ**

| Субота, 1 красавіка | | Нядзеля, 2 красакавіка | |
|---|---|---|---|
| Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | | Уначы | |
| 0°C | 0°C | 0 – -3°C | -6°C |
| Удзень | | Удзень | |
| +3 – +11°C | +7°C | +2 – +7°C | +6°C |




МАЛАДЗЕЧНА

## Маладзечна пакінула тэатральная «Сакавіца»?

Упершыню за апошнія 7 год рэспубліканскі тэатральны фестываль «Маладзечанская сакавіца» не пазначаны ў тэатральнай афішы горада. Цяпер ён будзе праходзіць раз на два гады (па чарзе з міжнароднай «Белай вежай»). У сталіцы сцвярджаюць, што маладзечанская прапіска ў яго застанецца.

***Аддзел інфармацыі.***

МЯДЗЕЛ

## Нацпарк прапануе для «дзікіх» турыстаў

У Нацыянальным парку "Нарачанскі" пачалі рыхтаваць турыстычныя стаянкі для прыёму "дзікуноў". Да іх паслуг ладзяць альтанкі, паветкі, сталы, смеццезборнікі. Да адкрыцця сезона плануецца абсталяваць каля 20 такіх стаянак.

***Алесь ВЫСОЦКІ.***

МАЛАДЗЕЧНА

## Яшчэ раз мяняем чэкі «Маёмасць»

На працягу двух месяцаў уладальнікі чэкаў "Маёмасць" маюць магчымасць замест іх атрымаць акцыі любога з дваццаці васьмі айчынных прадпрыемстваў, уключаных у новы спіс. З 20 сакавіка дзейнічае яшчэ адзін пералік адкрытых акцыянерных таварыстваў, якія гатовыя памяняць чэкі на свае каштоўныя паперы.

Эканаміст філіяла 601 ААБ "Беларусбанк" **Ірына Хіла** гаворыць, што ў гэты спіс унесены 28 прадпрыемстваў, сярод іх 6 – з Маладзечна. Гэта ААТ "Аддзелачнік–198", "Спецбудмеханізацыя", Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў, Маладзечнажалезабетон, Аўтатрансбуд, ПМК–32.

Спіс прадпрыемстваў дзейнічае да 20 чэрвеня. Умовы абмену чэкаў на акцыі можна знайсці ў аддзяленнях ААБ "Беларусбанк" (за акцыю трэба ўкласці ад 4 да 20 чэкаў).

З 1 красавіка можна стаць акцыянерам яшчэ двух прадпрыемстваў з Маладзечна: аграхіміі і аграпрамтэхнікі. Чэкавая прыватызацыя працягнецца да 2002 года.

***Іван ШПАЛАЎ, аддзел інфармацыі.***

АШМЯНЫ

## У Ашмянах новы старшыня выканкома

На сесіі райсавета зацверджаны новы старшыня райвыканкома. Замест **Віктара Пракопчыка** ім стаў 55-гадовы **Вітольд Кудырка**. Яго малодшы брат Мечыслаў яшчэ нядаўна (да 4 лістапада) працаваў старшынёй Астравецкага райвыканкома.

Апошнім месцам работы новага кіраўніка раёна была Ліда, дзе ён працаваў начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі Лідскага раёна.

***Аддзел інфармацыі.***

МАЛАДЗЕЧНА

## Дзень Волі ў Маладзечне

Горад адзначыў Дзень Волі 24 сакавіка – у пятніцу былі праведзены пікет і мітынг. У гарадскі парк на мітынг прыйшло больш за 300 чалавек. Галоўнымі лозунгамі сталі "Наш дом – незалежная Беларусь!", "За незалежную, заможную, еўрапейскую Беларусь!". Вёў яго **Эдуард Баланчук**.

Выступілі прадстаўнікі дэмакратычных арганізацый Маладзечна, госці з Мінска. На завяршэнне былі ўскладзены кветкі з бела–чырвона–белымі стужкамі да памятнага знака "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі". Памяць ахвяр барацьбы за волю Беларусі ўшанавалі хвілінай маўчання.

Назіральнікамі Хельсінкскага Камітэта падчас правядзення мітынгу не было заўважана парушэнняў правоў чалавека. Як адзначаюць сябры маладзечанскага аддзялення Беларускага Хельсінкскага камітэта **Андрэй Сарокін і Аляксандр Мартынаў**, паводзіны міліцыянераў, якія забяспечвалі парадак разам з дружынай, былі карэктныя.

***Аддзел інфармацыі.***

АСТРАВЕЦ

## Астравецкія грамадзяне не стаяць на ўліку

У мінулым нумары "РГ" паведамляла, што раённая арганізацыя АГП папрасіла ў райвыканкома дазволу на правядзенне ў гадавіну БНР пікета пад назвай "Грамадства РБ". Мясцовыя ўлады спасылаліся на тое, што астравецкія "грамадзяне" не пастаўлены на ўлік ва ўпраўленні юстыцыі Гродзенскага аблвыканкома і адмовілі ў правядзенні пікета.

Тым не менш, у назначаны дзень і час на месцы збору з'явілася група зацікаўленых людзей. Прыйшоў сюды і ініцыятар пікета, старшыня астравецкай раённай арганізацыі АГП **Іван Крук**. Ён патлумачыў прысутным, што мерапрыемства ўлады не дазволілі праводзіць, але заверыў, што наступнага пікета доўга чакаць не давядзецца.

***Мікалай УЛАСЕВІЧ.***

ГРОДНА – МІНСК

## Прадпрымальнікі абараняюць свае правы

На 3 красавіка ў Мінску намечаны з'езд, дзе плануецца стварыць рэспубліканскую структуру прадпрымальнікаў. Для стварэння новага прафсаюза неабходна сабраць не менш за 500 чалавек.

Устаноўлены мэтавы ўзнос на правядзенне з'езда і мітынгу, які (пры атрыманні дазволу) мяркуецца правесці ў абарону правоў і законных інтарэсаў прадпрымальнікаў. Актыўным арганізатарам мерапрыемства выступае **Валерый Леванеўскі** з Гродна.

***Аддзел інфармацыі.***

МОДА



*Мода – прывілея маладых.*
ФОТА ЮЛІІ ВАНСЛАЎ.

## Містэры і місіс «Ікс»

МАЛАДЗЕЧНА. У канцэртнай зале музычнага вучылішча імя Агінскага прайшоў II гарадскі конкурс-паказ мадэляў адзення. 31 калекцыю прадстаўлялі ў намінацыях "Мілітары" (форма), "Камфорт" (адзенне для штодзённага нашэння), "Дынаміка юнацтва", "Офіс", "Асаблівы выпадак" (адзенне "на выхад").

Паказ здзяйснялі 58 манекеншчыкаў і 20 дзяцей. Сярод іх у намінацыі "Мадэлінг" выбралі жаночую подыумную мадэль (рост 175–180 сантыметраў, узрост 14–22 гады), мужчынскую стандартную мадэль (178–184, 15–25, памер адзення 48–52), узроставую мадэль мужчыны і жанчыны, старэйшых за 22–25 год. Назвалі толькі нумары лепшых манекеншчыкаў (кожны з іх меў свой асабісты), а імёны засталіся сакрэтам – такая была задума арганізатараў.

***Юлія ВАНСЛАЎ.***

### Статыстыка наведванняў старонкі «РГ» у Internet

З 21 сакавіка – дня першага выхаду электроннай версіі «РГ» – нашу старонку ў Internet наведвалі 69 разоў:

| | |
|---|---|
| Беларусь | 37 |
| ЗША | 11 |
| Расія | 5 |
| Ватыкан | 3 |
| Літва | 3 |
| Аўстрыя | 2 |
| Польшча | 2 |
| Швейцарыя | 2 |
| Бельгія | 1 |
| Ізраіль | 1 |
| Балгарыя | 1 |



**Чытайце «РГ» у Internet: http://regionnews.promedia.minsk.by**

## Асаблівасці газетнай WEB–старонкі



*Трэці нумар "Рэгіянальнай газеты" яе прыхільнікі (у асноўным, замежныя) маюць магчымасць чытаць у Internet. Актыўна садзейнічаў гэтаму WEB—дызайнер з Маладзечна Дзмітрый Бараноўскі.*

– Мяне лепш назваць праграмістам, – не згаджаецца ён. – Азначэнне "дызайнер" мае на ўвазе шэраг якасцяў яго ўладальніка; гэта, перш за ўсё, лічу, творчасць.

**– Газета, спадзяемся, была не першая твая спроба стварэння WEB–старонкі?**

– У мяне ўжо ёсць свае два сайты, у планах – яшчэ адзін.

**– Што для цябе WEB–старонка?**

– Адпрацоўка Internet–тэхналогій. Прэстыжны заробак – у перспектыве. У тым ліку, за мяжой.

**– І якія асаблівасці газетнай WEB–старонкі ты б адзначыў? Ці гэта, як пасадзіць дрэва, – няма розніцы, "клён ці дуб"?**

– Кожны сайт – творчасць. Бо галоўнае – усё ж непаўторнасць, хаця і напрацоўкі скарыстоўваюцца. Ёсць маральнае задавальненне, калі на сайт ідуць наведвальнікі.

**– На старонку "РГ" літаральна з першых дзён пайшлі людзі з ЗША, Аўстраліі, Швейцарыі, Ватыкана.**

– Гэта, натуральна, тыя, хто цікавіцца сённяшняй Беларуссю. Але правільнае індэксаванне сайта на пошукавых серверах, прапіска адразу сябе выяўляюць, у тым ліку, і па хуткасці звароту да новай старонкі. Значыць, работа зроблена добрасумленна.

**Ад рэдакцыі.** Мы ўпэўненыя, што WEB–старонкі павінен рабіць чалавек з ведамі і досведам. Internet для нашай газеты – крыніца дзелавой інфармацыі. І калі вы наважыцеся прадаваць свае тавары і паслугі за мяжу (нават у Расію), маеце жаданне пазнаёміцца з кім здалёк, лепшага месца вам не адшукаць. Старонкі "Рэгіянальнай газеты", якія ўбачаць жадаючыя ва ўсім свеце, да вашых паслуг.

У Маладзечне WEB–сайтаў малавата, у іншых месцах рэгіёна яшчэ менш. І усе яны – прыватныя. Калі мы раптам памыляемся, напішыце.

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

*ТРАНСПАРТ*

# Маладзечна: чакаем гарадскі аўтобус

## Што дзень наступны нам рыхтуе?

**Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.**

Факт канстатаваны (зрэшты, не сёння), праблемы акрэсленыя. На жаль, не відаць, каб нехта неяк імкнуўся змяніць становішча.

Адно з выйсцяў бачыцца ў павелічэнні тарыфаў на праезд недзе да 60–65 рублёў. Для гэтага трэба, як мінімум, каб гарвыканком меў права самастойна ўстанаўліваць цану за талончык. Хаця, згадзіцеся, наўрад ці будзе галоўны чыноўнік горада браць на сябе падобную адказнасць (трэба пахадзіць па мінскіх кабінетах, затым пачуць словы падзякі ад жыхароў і г. д.).

На сёння кепскую работу транспарта і дырэктар аўтапарка, і іншыя адказныя работнікі тлумачаць адсутнасцю грошай. На "няма", як вядома, і суд адсутнічае, таму... і рабіць нічога не трэба. Пры нейкай жа самастойнасці спісваць памылкі няма на каго. Больш за тое, трэба будзе нешта рабіць (г. зн., кардынальна мяняць сістэму абслугоўвання), шукаць "свой шлях".

Спасылкі на краіны Еўропы, дзе муніцыпалітэты даціруюць пасажырскія перавозкі на 50–70%, выглядаюць недарэчнымі – у нашых выканкомаў грошай усё адно няма. Галоўны інжынер аўтапарка **Яўстафій Каравай** гаворыць, што 90% гарадскіх аўтобусаў належаць да спісання. Гэта значыць, што маладзечанцы ездзяць фактычна ў "замініраваным" транспарце – нешта можа здарыцца ў кожную хвіліну. Аўтобуснікі нявесела зазначаюць:

– Хто нам дазволіць не падаваць аўтобусы? І адначасова ніхто не дасць гарантыі бяспечнай работы...

Хаця калі нехта не дазваляе не падаваць аўтобусы, то, можа, гэты нехта і адкажа ў выпадку чаго?

## Пра прыватызацыю

Некаторы час з маладзечанскіх вакзалаў у аддалены 6–ы мікрараён хадзіла "маршрутка" – задаволеныя былі ўсе. Неяк неўпрыкмет яна знікла – не ў апошнюю чаргу, з–за складаных стасункаў з "традыцыйнымі" таксістамі (тыя бралі за паездку 1–1,5 тысячы супраць 80–100 рублёў у "маршрутцы"; натуральна, што ад танных канкурэнтаў паспяшаліся пазбавіцца).

Магчыма, і таму прыходзяць думкі пра прыватызацыю некаторай часткі грамадскага транспарту. У цяперашнім выглядзе – гэта нічыйны транспарт, таму, адпаведна, і не адказвае за яго ніхто.

*Галіна БАРЫСЕВІЧ, Юрый КАРПІЦКІ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

## Ці будуць гарадскія аўтобусы хадзіць толькі ў фіксаваны час?

Намеснік дырэктара аўтапарка №4 па перавозках **Віктар Руткоўскі** запэўніў, што да 1 красавіка аўтобусы будуць хадзіць па ранейшым раскладзе, хаця існуе трывалая запазычанасць аўтапарка нафтабазе за паліва.

Начальнік агульнага аддзела гарвыканкома **Валяр'ян Кавалевіч** гаворыць, што якраз у пятніцу вырашыцца, як будуць хадзіць аўтобусы. Як варыянт, разглядаюцца 3 "паясы": з 6 да 9 гадзін, з 15 да 19 і з 22 гадзін да 0.30.

Начальнік фінансавага аддзела гарвыканкома **Паліна Вашкевіч** паведаміла, што 27 сакавіка бюджэт поўнасцю разлічыўся з аўтапаркам. А яго запазычанасць нафтабазе па горадзе і раёне складае 33,7 мільёна рублёў.

Нафтабаза не крэдытная арганізацыя, таму можа стацца, што паездка ў аўтобусе стане раскошай для маладзечанцаў.

> У сувязі з нязначным пасажырапатокам па выхадных і святочных днях па маршруце №6 на ўчастку Зялёны Гарадок – Здземелева, аўтапарк №4 змяніў рух аўтобусаў па маршруце №6 наступным чынам: ЗПМ – Старое Места – вул. Міру – вул. Будаўнікоў – Зялёны Гарадок – вул. Буйніцкага – аўтавакзал – фабрыка музінструментаў – вул. Б. Хмяльніцкага – вул. Будаўнікоў – вул. Міру – Старое Места – ЗПМ.

**ВІЛЕЙКА.** Пра сітуацыю ў Вілейцы расказвае начальнік аддзела эксплуатацыі вілейскага аўтапарка №5 **Сяргей Цярлюк**.

– У апошні час таксама не заўсёды вытрымліваецца графік руху аўтобусаў. Напрыклад, 25 сакавіка гарадскія аўтобусы працавалі толькі раніцой, таму што мы атрымалі 500 літраў дызпаліва і бензіну замест патрэбных 1200. Некаторыя прыгарадныя аўтобусы былі адмененыя.

Ад пачатку тыдня замест патрабуемых 10 аўтобусаў па горадзе ходзяць толькі 7, таму інтэрвал у некаторых месцах замест 15 хвілін складае 30. Уся праблема ў агульнай запазычанасці. Каля 20 мільёнаў аўтапарк завінаваціўся нафтабазе, і прыкладна столькі ж бюджэт вінен аўтапарку.

*Аддзел інфармацыі.*

*ХАРЧАВАННЕ*

## Кожнаму – 60 г малака на дзень

МАЛАДЗЕЧНА. Патрэбы пакупнікоў у малацэ, па–ранейшым, поўнасцю не задавальняюцца (штодзённа ў гарадскія магазіны развозяць 6 тон гэтага прадукту – прыкладна, 60 грамаў на чалавека).

Дырэктар малаказавода **Уладзімір Бобрык** тлумачыць гэта параўнальна невялікай колькасцю натуральнага малака, якое паступае з калгасаў (летась прывозілі каля 38 тон кожны дзень, а сёння гэтая лічба складае 26 тон): зменшыліся надоі, бо каровам нестае корму. Сітуацыю ўскладняе тое, што калгас "Краснае" цяпер возіць малако ў Мінск, дзе закупачная цана вышэйшая. Уладзімір Бобрык гаворыць, што на месцы адна тона натуральнага малака вышэйшага гатунку каштуе 72800 рублёў, а ў сталіцы яно на 50% даражэйшае.

– У Мінску за малако плацяць з гарадскога бюджэту, а ў нас разлічваць на дапамогу гарадскіх уладаў асабліва не даводзіцца, – дырэктар малаказавода сітуацыю ацэньвае песімістычна.

Ён лічыць, што сітуацыя з малаком палепшыцца толькі ў канцы мая, калі каровы пойдуць у поле.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

## Курсы валют НБ РБ

| | 23 сакавіка | 30 сакавіка |
|---|---|---|
| Долар | 429,00 руб. | 434,00 руб. |
| Марка Герм. | 210,82 руб. | 212,43 руб. |
| Літ | 107,22 руб. | 108,47 руб. |
| Рас. руб. | 15,13 руб. | 15,35 руб. |
| Злоты | 105,97 руб. | 106,11 руб. |
| ЕЎРА | 412,33 руб. | 415,47 руб. |

### «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 900 – 930 руб. | 910 – 950 руб. |

### МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) 22.03 | 29.03 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 1050 | 1050 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 4410 | 3740 |
| Сасіскі | 1 кг | 933 | 1150 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 720 | 710 |
| Рыс | 1 кг | 380 | 380 |
| Грэчка | 1 кг | 570 | 575 |
| Цукар | 1 кг | 258 | 275 |
| Алей | 1 л | 640 | 650 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 360 | 350 |
| Маянэз | 250 г | 150 | 150 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 300 | 300 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 200 | 240 |
| Лімоны | 1 кг | 960 | 895 |
| Апельсіны | 1 кг | 630 | 630 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 160 | 150 |
| Яблыкі | 1 кг | 350 | 350 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 500 | 500 |
| Масла | 1 кг | 1200 | 1200 |
| Тварог | 1 кг | 500 | 500 |
| Малако | 1,5 л | 250 | 200 |
| Бульба | вял.вядро | 800 | 800 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 450 | 430 |
| Морква | 1 кг | 250 | 300 |
| Капуста | 1 кг | 150 | 150 |

*КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА*

## Беларусь змагаецца з аўдыё– і відэапіратамі

МАЛАДЗЕЧНА. Намеснік начальніка аддзела Упраўлення КДБ па Маладзечне і Маладзечанскім раёне **Анатоль Янкоўскі** сцвярджае, што ўпраўленнем гандлёвага прадстаўніцтва пры прэзідэнце ЗША узбуджаны працэс па выключэнні Беларусі з ліку краін–карыстальнікаў агульнай сістэмы льгот (пакуль наша краіна вызваленая ад падаткаў на імпарт у ЗША сваёй таварнай прадукцыі).

Асноўная прэтэнзія амерыканцаў тычыцца татальнага парушэння аўтарскіх праваў амерыканскіх кампаній, якія займаюцца вытворчасцю аўдыё–, відэаматэрыялаў. У нашай краіне каля 90% відэакасет з'яўляюцца пірацкімі. КДБ і камітэт фінансавых расследаванняў правялі рэйд і ў Маладзечне.

У аднаго з прадпрымальнікаў забралі 483 неліцэнзійныя відэакасеты – на падставе артыкула 167 (частка 9) Адміністрацыйнага кодэксу. Частка з канфіскаванага накіраваная на экспертызу. Хаця працэс узбудзілі амерыканцы, з той партыі трапілі на экспертызу і копіі расійскіх фільмаў. Трапілі на экспертызу не ўсе касеты – у партыі амаль не было аднолькавых фільмаў, таму фізічна немагчыма правесці экспертызу ўсіх, тым больш, што сярод іх ёсць заведама фальшывыя, і віну прадпрымальніка, на погляд Анатоля Янкоўскага, будзе даказаць няцяжка.

Намеснік начальніка Маладзечанскага міжраённага аддзела падатковых расследаванняў **Юрый Такуеў** паведаміў, што матэрыялы па гэтай справе знаходзяцца пакуль у КДБ. А лёс прадпрымальніка і яго тавару вырашыць "фінансавая міліцыя".

Такія рэйды збіраюцца зрабіць рэгулярнымі. Толькі ж, калі знікнуць відэакасеты па 1,5 тысячы, а з'явяцца амаль такія коштам у 10 разоў больш, то асноўнай масе спажыўцоў яны будуць не па кішэні. Ды і далёка не ўсе маюць сучасную апаратуру, што дазваляе атрымаць асалоду ад якаснага відовішча.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

## Аматар паспаць на рэйках

МАЛАДЗЕЧНА. З пачатку года на ўчастку абслугоўвання АУС на транспарце зарэгістравана 9 няшчасных выпадкаў на аб'ектах чыгункі. 5 з іх скончыліся смерцю (тры чалавекі выбралі такую дарогу ў якасці сродка звядзення рахункаў з жыццём).

7 сакавіка рабочы калгаса "Падбярэззе" Валожынскага раёна на рабочым месцы з калегамі ўжыў вялікую колькасць спіртных напіткаў, вырашыў праветрыцца і накіраваўся па чыгуначных пуцях дадому. Але, напэўна, не разлічыў сілы і прылёг адпачыць на чыгуначнае палатно, у выніку чаго быў смяротна траўміраваны прыгарадным цягніком. Да гэтага выпадку работнікі чыгункі неаднаразова бачылі гэтага чалавека, калі ён спаў на чыгуначных пуцях.

Сёлета за хаджэнне па пуцях у нявызначаных месцах прыцягнута 235 чалавек, летась – 1657 чалавек. Гэта без уліку асоб, пакараных работнікамі ваенізаванай аховы ст. Маладзечна.

Галоўная прычына траўматызму – далейшая алкагалізацыя грамадства, парушэнне элементарных правілаў паводзінаў на чыгунцы.

*Юрый КРАЎЧАНКА, старшы інспектар грамадскай бяспекі і прафілактыкі Маладзечанскага АУС на транспарце.*

*БЮДЖЭТ*

## Запазычаная зарплата

МІНСК. Ад пачатку года назіраецца істотны рост запазычанасці па заработнай плаце. Яшчэ ў канцы мінулага месяца даўгі прадпрыемстваў і арганізацый перад работнікамі складалі 10,5 мільярда рублёў (за люты павялічыліся ў 1,5 раза). У параўнанні з запазычанасцю на канец снежня рост яшчэ больш унушальны — у 3,4 раза. Удзельная вага запазычанасці ў месячным фондзе заработнай платы дасягнула 10,4%.

Павелічэнне запазычанасці адбылося ва ўсіх галінах эканомікі. 60% яе прыпадае на сельскагаспадарчыя прадпрыемствы. Своечасова не выплачаная зарплата 364 тысячам работнікаў, што складае 59% занятых у сельгасвытворчасці. На прамысловых прадпрыемствах запазычанасць па заработнай плаце склала 2 мільярды рублёў, або 19% ад усёй запазычанасці па краіне.

*Сяргей СНЕГІН, БелаПАН.*

## Настаўнікам заплацілі

МАЛАДЗЕЧНА. Як засведчыла "РГ" начальнік фінансавага аддзела гарвыканкома **Паліна Вашкевіч**, 17 сакавіка прафінансаваная астаткавая сума (3,2 мільёна рублёў) на заработную плату настаўнікам (па плане – да 8 сакавіка). Што будзе ў красавіку – невядома.

Запазычанасць бюджэту за харчаванне ў садках і школах скарацілася ўдвая і складае 6,5 мільёна.

За 2 месяцы сума паступлenняў у бюджэт складала ўсяго 63% ад запланаванага. Найбольш буйныя даўжнікі бюджэту: завод "Электрамодуль", фабрыка музычных інструментаў, завод металавырабаў.

ВІЛЕЙКА. Тут таксама праблемы з выкананнем даходнай часткі бюджэту. Начальнік фінансавага аддзела райвыканкома **Тадэвуш Раманоўскі** гаворыць, што з бюджэтнікамі разлічыліся толькі 24 сакавіка.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

*ЖЫЦЦЁ НАШАЕ*

# Раскамплектаванне ліфтаў у 6–м мікраpаёне скончылася?

*МАЛАДЗЕЧНА. Перыяд з 24 студзеня па 13 лютага для злодзеяў, што спецыялізаваліся ў раскамплектаванні ліфтаў, не прайшоў дарма. Толькі за гэтыя 18 дзён (дакладней, начэй) яны вывелі са строю 9 ліфтаў. Аблюбавалі інжынеры—аматары чужога 6—ы мікрараён: вуліца Крынічная і Вялікі Гасцінец сталі зонамі іх актыўнага дзеяння.*

Сваю справу «спецыялісты» рабілі ноччу, узломваючы або падбіраючы ключ да тэхнічнага паверха, пранікалі ў ліфтавую. "Пакалупаўшыся" у блоку ўпраўлення ліфтамі, выцягвалі адну з плат.

Ліфты, што сталі "ахвярамі" грабяжу, належаць Мінскай арганізацыі "Ліфтсервіс", абслугоўвае іх "Камунальнік", якому здарэнні моцна ўдарылі па кішэні. Жыллёва–камунальная гаспадарка панесла вялікія матэрыяльныя страты, ды й жыхарам дамоў-няўдачнікаў няма асаблівай весялосці штодня падымацца на верхнія паверхі пешшу. На жаль, пра нейкія падрабязнасці ў "Ліфтсервісе" даведацца не ўдалося – тут параілі па тлумачэнні звяртацца да работнікаў міліцыі.

Следчы **Віктар Хуртай** расказаў, што па гэтых фактах узбуджаная крымінальная справа. Для вядзення следства загадам начальніка ГРАУС была назначаная аператыўная група пад кіраўніцтвам намесніка начальніка аддзела крымінальнага вышуку (АКВ) падпалкоўніка міліцыі **Аляксандра Крывашэя**.

ГРАУС звярнуўся да тых, хто мае якую–небудзь інфармацыю па справе, з просьбай тэлефанаваць (званкі маглі насіць ананімны характар).

У ноч на 6 красавіка адбылася чарговая і апошняя вылазка зламыснікаў. Як кажуць, у ходзе вышуковых мерапрыемстваў затрымана 5 чалавек: тры навучэнцы палітэхнікума, 11–класнік СШ №8 і токар АТ «Электрамодуль». Нікому з іх няма яшчэ і дваццаці год.

Юныя барацьбіты з ліфтамі паспелі ўкрасці 39 плат (з аднаго ліфта выцягвалі да 4 штук). Украдзенае разбіралі на дэталі, якія затым прадавалі на «Лебядзіным». Сума ўрону (з улікам выдаткаў на аднаўлене работы ліфтаў) складае 4794836 рублёў (больш за 5 тысяч долараў ЗША ў пераліку па рынкавым курсе).

Следчы **Анатоль Гарабец** гаворыць, што парушальнікі закону будуць несці адказнасць па артыкуле «Крадзеж у асабліва буйных памерах».

А ліфты ў дамах павінны быць адрамантаваныя ў бліжэйшы час. Фінансаваннем гэтай справы займаюцца гарвыканком і "Камунальнік". Будзем спадзявацца, жыхары зноў атрымаюць магчымасць камфортнай дастаўкі на верхнія паверхі.

*Вольга КАСЯКОВА.*



*У такім стане знаходзіцца большасць ліфтаў горада.*

ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

